БІБЛІОТЭКА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

А. САМАХВАЛАЎ

# МЮД

## (НАРЫС ГІСТОРЫІ МІЖНАРОДНАГА ЮНАЦКАГА ДНЮ)



ВЫДАНЬНЕ ЦК ЛКСМБ
МЕНСК—1925

БІБЛІОТЭКА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

А. САМАХВАЛАЎ

# МЮД

## (НАРЫС ГІСТОРЫІ МІЖНАРОДНАГА ЮНАЦКАГА ДНЮ)



ВЫДАНЬНЕ ЦК ЛКСМБ
МЕНСК—1925

# Прадмова

Ніжэй паданая брошура ня ёсьць самастойны твор. Гэта больш компіляцыя з маючыхся датычных тэмы расійскіх выданьняў: Чычэрына—з Гісторыі Інтэрнацыяналу Моладзі, Мірашэўскага—Хрэстоматыя, Тарханава і інш. Выданьне мае практычную мэту даць на беларускай мове матэрыял да чарговага XI МЮД'у і разам з гэтым трохі азнаёміць у сьціслай форме з міжнародным юнацкім рухам. Ня гледзячы на маючыяся ў брошурцы недахопы і хібы, яна, лічу, хоць трохі выканае пастаўленыя мэты.

А. Самахвалаў.

МЮД —Міжнародны Юнацкі Дзень сапраўднае міжнароднае сьвята пролетарскай моладзі. У гэты дзень выходзяць на вуліцу масы моладзі захаду і ўсходу, моладзь савецкіх рэспублік і краін, дзе ідзе ўпартая барацьба за перамогу рабочае клясы. МЮД у сваім мінулым—гэта тыя слупы, якія адзначаюць вялікі рэволюцыйны шлях ад першых спроб організованага змаганьня з капіталізмам да балшавіцкае барацьбы за комунізм. Будучына за рабочай клясай, перамога за пролетарыятам, бо капіталізм сам творыць з працоўных тую сілу, якая павінна яго зьнесьці з твару зямлі.

## Капіталізм нарадзіў рэволюцыйны рух пролетарскае моладзі.

Рух рабочай моладзі ёсьць адна з галін агульнага рабочага руху. Капіталістычны лад выклікаў рэволюцыйны рух дарослых рабочых, і ня мог ня выклікаць руху рабочае моладзі. Капіталістыя, адчуваючы вялікую патрэбу таннай і пакорнай рабочай сілы, натуральна пачалі ўцягваць у прамысловасьць, наогул у вытворчасьць дзяцей і падлеткаў. Гэтаму спрыяла разьвіцьцё тэхнікі (пашырэньне машыны), якое не патрабавала вялі-

кае фізічнае сілы і кваліфікацыі. Дзеці і падлеткі, уваходзячы ў процэс капіталістычнае продукцыі (вытворчасьці), атрымліваюць гэтым экономічную незалежнасьць ад сям'і, становяцца роўнымі сябрамі рабочае клясы і падпадаюць пад лютую эксплёатацыю і прыгнечаньне капіталізму. Таннасьць працы моладзі яшчэ больш павялічвала капіталістычны ўціск рабочае моладзі ў большай меры, чымся дарослых. Трэба было распачаць будаваньне асобных юнацкіх організацый дзеля барацьбы за свае інтарэсы як экономічныя, гэтак і культурныя. Да організацыі моладзь штурхаў і ўціск мілітарызму—ваеншчыны. Мілітарызм кідаў рабочую моладзь у полымя вайны за інтарэсы прадпрыемцаў, рабіў з моладзі забойцаў сваіх братоў у часы рэволюцыйных выбухаў дзеля яшчэ большага прыгнечаньня буржуазіяй рабочае клясы.

І ўжо з часоў рэволюцыі 1848 году мы бачым (у Аўстрыі) першыя спробы організацыі працоўнае моладзі, якія на працягу далейшых гадоў то раскідваючыся, то зноў організуючыся вядуць клясавую барацьбу. У канцы XIX стагодзьдзя організацыі моладзі значна пашыраюцца. У 1885 годзе зьяўляюцца організацыі ў Голяндыі, у 1886 г.—у Бэльгіі, у 1894 годзе—у Аўстрыі, крыху пазьней у Італіі і г. д. Адны з гэтых організацый моладзі больш налягалі на барацьбу супроць

мілітарызму, другія вялі больш мірную барацьбу за экономічныя і культурныя, а то і выключна за культурныя патрэбы. Гэта залежала ад умоў кожнай асобнай краіны, ад цяжару таго ўціску, які быў у той ці іншай капіталістычнай дзяржаве. Трэба адзначыць, што юнацкія організацыі былі больш рэвалюцыйныя, чымся організацыі дарослых працоўных, якія ўжо ў тыя часы былі закрануты згодніцтвам і чыноўнічай партыйна-профсаюзнай бюрократыяй соцыял-дэмократаў.

## Заснаваньне Ітэрнацыяналу моладзі, яго заняпад.

Адсутнасьць сувязі ў працы юнацкіх організацый розных краін, рознастайнасьць іх па сваіх мэтах, адсутнасьць адзінага кіраўніцтва гэтымі організацыямі—усё гэта значна перашкаджала посьпехам барацьбы і адчувалася як кіраўнікамі руху працоўнае моладзі, так і яго радавымі ўдзельнікамі. Шэраг таварышоў у пачатку 1900 г. робяць спробы (у гэтым ліку Карл Лібкнэхт) утварыць сувязь паміж асобнымі соцыялістычнымі організацыямі моладзі. Гэтыя спробы зьдзяйсьняюцца скліканьнем у 1907 г. у г. Штутгарце (Нямеччына) Міжнароднага конгрэсу соцыялістычнае моладзі. Штутгарцкі конгрэс меў дэлегатаў ад невялікага ліку краін і ад невя-

лікага яшчэ ліку сяброў організацыі. На конгрэс зьехаліся дэлегаты ад Нямеччыны, Аўстрыі, Вэнгрыі, Італіі, Голяндыі, Швэцыі і Аўстраліі. Адным з старшын конгрэсу быў Карл Лібкнэхт. Гэты конгрэс утварыў Інтэрнацыянал моладзі і вызначыў свае наступныя галоўныя мэты, як програму: змаганьне з мілітарызмам, культурна-асьветная праца сярод моладзі, паляпшэньне экономічнага і юрыдычнага становішча моладзі. Конгрэс абраў міжнароднае Бюро Соцыялістычнага Інтэрнацыяналу моладзі, сакратаром якога быў высунуты дзеяч аўстрыяцкага руху моладзі Робэрт Даньнебэрг. Усе спрэчкі і пастановы конгрэсу мелі рэволюцыйны адбітак, рашучае запатрабаваньне соцыялістычнай моладзі весьці самадзейную працу і змаганьне за свае клясавыя інтарэсы.

Але партыйныя кіраўнікі з соцыял-дэмократаў, спужаўшыся рэволюцыйных імкненьняў моладзі, пачалі адкрытую барацьбу супроць самастойнасьці юнацкіх організацый, бачачы ў іх занадта вялікую, на іх згодніцкі погляд, рэволюцыйнасьць. Асабліва ў гэтым напрамку вызначалася нямецкая соцыял-дэмократыя, якой першай удалося ўзяць пад сваю апеку організацыі рабочае моладзі Нямеччыны і зьнішчыць іх самастойнасьць. За імі пашлі соцыял-дэмократы іншых краін. Пачалося ўпартае змаганьне юнацкай органі-

зацыі. Соцыял-згоднікі зьвялі на ніщто толькі што нарадзіўшыся рух моладзі.

Аднак у некаторых краінах: Італія, Швайцарыя, Швэцыя, Норвэгія, моладзь здолела ці цалком ці часткаю адстояць сваю самастойнасьць і павесьці барацьбу з партыйнай бюрократыяй сярод працоўнага руху. Таксама ў Нямеччыне і Францыі, дзе соцыял-згоднікі перамаглі, утварыліся опозыцыйныя групы моладзі, праўда раскрышаныя, якія ў далейшыя часы сталі пачаткам новага, запраўды рэволюцыйнага юнацкага руху.

Наогул-жа рух моладзі спаў і ўжо другі конгрэс Інтэрнацыяналу моладзі, які адбыўся ў 1910 годзе ў Копэнгагене (Данія) і 3 конгрэс (у 1912 г. ў Базэле—Швайцарыя) прашлі няпрыкметна і не пакінулі пасьля сябе больш-менш значнага сьледу.

## Міравая вайна адраджае міжнародны юнацкі рух. Памылкі ў барацьбе моладзі з мілітарізмам.

Міравая вайна 1914 г. знашла організацыі моладзі зусім раскіданыя. Юнацкі Інтэрнацыянал нічога не зрабіў дзеля наладжваньня міжнароднае сувязі паміж асобнымі організацыямі. Інтэрнацыяналу моладзі фактычна ня было.

Сярод руху дарослых рабочых, пад уплывам прадажніцкай соцыял-дэмократыі, запана-

ваў дробна-буржуазны рэформізм, соцыялзгодніцтва, соцыял-шовінізм. Аднак, амаль што ні паўсюды соцыялістычныя організацыі моладзі захавалі ў сябе адданасьць рэволюцыйнай барацьбе. Опозыцыйныя групы моладзі распачынаюць барацьбу супроць вайны і гэтым самым супроць апекі соцыял-дэмократаў над моладзьдзю. Пачалася зноў праца па наладжваньні міжнароднае сувязі.

Вайна адрадзіла політычную актыўнасьць організацый моладзі; яны пачалі вылазіць з-пад меншавіцкае бюрократычнае профсаюзна-партыйнае апекі. Асабліва гэроічную працу ў гэтым напрамку праводзіў саюз соцыялістычае моладзі Італіі, які наладжваў дэмонстрацыі супроць вайны, вёў агітацыю ў арміі і г. д. Швайцарскі саюз таксама вёў вялікую барацьбу з опортунізмам, вёў шырокую антымілітарыстычную працу. Гэтыя дзьве організацыі адыгралі вялікую ролю ў адбудаваньні Інтэрнацыяналу моладзі. Амаль што ня ўсе юнацкія організацыі за выключэньнем Нямеччыны і нямецкае Аўстрыі, выказаліся супроць вайны, супроць „грамадзянскага міру“, супроць соцыял-згодніцтва.

Праўда, юнацкія організацыі ня мелі патрэбнае рэволюцыйнае вытрыманасьці і яснасьці ў сваёй барацьбе, у сваёй тактыцы. Яны мелі вялікую нянавісьць да згодніцтва, да здрайцаў соцыялізму, якія абаранялі „сваю

бацькаўшчыну", якія галасавалі за выданьне грошай на імпэрыялістычную вайну, якія чым маглі адцягвалі ўвагу рабочае клясы ад яе міжнародных заданьняў. Юнацкія арганізацыі супроць гэтае згодніцкае політыкі высоўвалі дробна-буржуазны лёзунг па сваім сэнсе—„усеагульнае разброеньне" замест сапраўды рэволюцыйных лёзунгаў: „узброеньне пролетарыяту і разброеньне буржуазіі", „ператварэньне імпэрыялістычнае вайны ў грамадзянскую". Тав. Ленін, які ў тыя часы знаходзіўся ў Швайцарыі і шчыра цікавіўся рухам моладзі, крытыкуючы вельмі рашуча гэтыя няправільныя лёзунгі моладзі, імкнуўся выцягнуць яе на сапраўды рэволюцыйны шлях.

**Міжнародны рух моладзі выбіваецца на рэволюцыйны шлях. Першы і другі МЮД'ы.**

Стараньнямі швайцарскіх, італьянскіх і швэцкіх таварышоў, мінуючы Даньнябэрга (сакратара Інтэрмолу) у красавіку 1915 г. у Бэрне (Швайцарыя) была склікана міжнародная конфэрэнцыя. Гэтая конфэрэнцыя бясспрэчна мела вялікую рэволюцыйную значнасьць у руху моладзі. Яна вызначыла пэўную самастойнасьць юнацкага руху. Яна сьведчыла аб шчырым жаданьні працоўнай рэволюцыйнай моладзі ісьці на барацьбу за комунізм, яднаць навокал сябе ўсю пролетар-

скую моладзь, яе арганізоўваць для гэтае барацьбы. Бэрнская конфэрэнцыя пастанавіла што-год рабіць Міжнародны Юнацкі Дзень, у першую нядзелю верасьня месяца, калі ўсе рэволюцыйныя арганізацыі моладзі павінны наладжваць дэмонстрацыі, мітынгі і выступленьні пад лёзунгамі барацьбы з мілітарызмам, з соцыялістычною здрадаю, за комунізм.

Першы МЮД быў наладжаны з кастрычніка 1915 г. Яго лёзунгам было: „далоў вайну". Міжнароднае Бюро, абранае на Бэрнскай конфэрэнцыі, яшчэ перад кастрычнікам выдала адозву да моладзі ўсяго сьвету, накіраваную супроць вайны і соцыял-патрыотаў. Вышаў у сьвет першы нумар часопісі „Інтэрнацыянал Моладзі", які стаў ня толькі органам моладзі, але і левага крыла Цыммэрвальдцаў, дзякуючы шчыраму ўдзелу ў ім правыдыроў Цыммэрвальдцаў, як Ленін, Зіноўеў, Радэк і інш. На прызыў Міжнароднага Бюро адгукнулася моладзь многіх краін. Дэмонстрацыі моладзі супроць мілітарызму хвалямі пракаціліся па Швэцыі, Норвегіі, Даніі, Швайцарыі, па шмат якіх гарадох Нямеччыны, па Голяндыі, Амэрыцы, Румыніі і інш. организоўваліся буйныя дэмонстрацыі, сходы, мітынгі і г. д. У Швайцарыі напрыклад у іх прыняло ўдзел звыш 25.000 моладзі. У першы Міжнародны Юнацкі Дзень

каля 120.000 моладзі вышла на вуліцу, дэманструючы ня толькі супроць вайны, супроць мілітарызму, а і паказваючы гэтым сваю міжнародную еднасьць у барацьбе за пастаўленыя мэты. Першы МЮД паказаў, што рэволюцыйная моладзь стала на шлях самастойнае барацьбы, што пачалася справа зьбіраньня рэволюцыйных маладых сіл, іх паступовае аб'яднаньне і сплачваньне спачатку пад чыста супроць-ваеннымі лёзунгамі, а пасьля і пад лёзунгамі палітычнай барацьбы. Першы МЮД сьведчыў аб тым, што рэволюцыйная пролетарская моладзь пачала выходзіць з палону соцыял-дэмократаў, з палону опортуністых партыйных бюрократаў.

Другі Міжнародны Юнацкі Дзень адбыўся 3 верасьня 1916 г. Гэты дзень быў больш бурны за першы МЮД па сваім протэсьце супроць вайны. 1 мая 1916 г. быў арыштованы і кінуты ў турму ў Бэрліне Карл Лібкнэхт за організованы ім мітынг супроць вайны. Другі МЮД праходзіў пад уплывам гэтага гвалту над правадыром рэволюцыйнай моладзі. На арышт К. Лібкнэхта юнацкія організацыі ў дзень МЮД'у адгукнуліся вялікімі супроць-ваеннымі дэмонстрацыямі, сходамі протэсту, мітынгамі. Ня гледзячы на перашкоду з боку жандараў, на ўмовы рэакцыі, якая моцна адчувалася ў часы вайны, другі МЮД абхапіў моладзь больш як у

1915 г., і меў вялікае значэньне для міжнароднага рэвалюцыйна-юнацкага руху. Як і летась Міжнароднае Бюро выдала адозву. Было распаўсюджана шмат агітацыйнай літаратуры. Другі МЮД пашырыў значна лік сяброў Інтэрнацыяналу моладзі. Па розных краінах было прыцягнута ў Інтэрмол больш за 6.000 маладых працоўных.

Другі МЮД разам з тым прынёс і ахвяры сярод кіраўнікоў юнацкага руху. Поліцыя ўрэзалася ў шэрагі дэманстрантаў з шаблямі, ужываліся нават кулямёты. Кіраўнікі італьлянскага Соцыялістычнага саюзу моладзі Ф. Марыноццы і Італо Тоскані былі арыштованы і загінулі ў турме. Другі МЮД, як і першы, паказаў, што рух моладзі зьяўляецца вынікам рэволюцыйнага настрою працоўнае моладзі, прыгнечанай капіталізмам эксплёатуемай з усіх бакоў. Гэты рух ня быў штучна ўтвораным рухам праз старых партыйных згодніцкіх дзеячоў.

## Рэволюцыйная моладзь падагульвае вынікі ў сваёй барацьбе супроць вайны. Трэці МЮД.

Пасля першых двух МЮД'аў на старонках „Інтэрнацыяналу Моладзі“, гэтак сама і сярод соцыялістычных організацый моладзі пачалася дыскусія аб тым, як змагацца з вайной. Трэба было юнацкаму руху мець во-

пыт двух год вайны, каб знайсьці правільны шлях барацьбы супроць імпэрыялістычных войн. Практыка расійскай рэволюцыі вельмі яскрава паказала моладзі, як трэба весьці бальшавіцкую Ленінскую супроць-ваенную барацьбу. У дыскусіі сярод моладзі прынялі шчыры ўдзел кіраўнікі бальшавіцкага руху, у тым ліку тав. Ленін. Дыскусія гэта дала свае вынікі і ўжо 3 МЮД, які праводзіўся 2 верасьня 1917 г. значна розьніўся ад першых двох. Ён адбываўся ўжо пад лёзунгамі сусьветнае рэволюцыі. Адозва Інтэрмолу заклікала моладзь да міру народаў, але шлях да гэтага міру– барацьба з буржуазнымі ўрадамі, барацьба грамадзянская. 3 МЮД падпаў пад асабліва лютае перасьледваньне бужуазіі. Пачалося перасьледваньне міжнароднага Бюро, як кіраўніка рэволюцыйнай моладзі. Сакратар Бюро тав. Мюнцэнбэрг быў высланы з краіны. Шмат ахвяр было ў Нямеччыне. Першы раз у сьяткаваньні Міжнароднага Юнацкага Дню прыняла ўдзел моладзь даўнейшай Расіі. Яна 15 сьнежня, па закліканьні Міжнароднага Бюро, арганізавала вялізарную дэмонстрацыю ў Маскве. Моладзь Захаду вельмі горача вітала вялікую Расійскую рэволюцыю. Расійская рэволюцыя надавала моладзі больш сілы і ўпартасьці ў барацьбе, моладзь адчувала гэтую рэволюцыю сваёй, роднаю рэволю-

цыяю і галоўным лёзунгам 4 МЮД'у было спачуваньне ахвярам барацьбы, еднасьць захаду з Савецкай Расіяй. Савецкая Расія стала ажыцяўленьнем барацьбы соцыялістычных організацый моладзі, яна стала падпорою пролетарскага руху моладзі.

У 5 МЮД 1919 г. (7 верасьня) моладзь дэмонстравала пад лёзунгамі за Савецкую Расію, за Комінтэрн, за ўсясьветную пролетарскую рэволюцыю і дыктатуру пролетарыяту. Дэмонстрацыі ў гэты дзень мелі вельмі бурны характар. У Бэрліне салдаты гэнэрала Носке стралялі з кулямётаў у 3-х тысячную дэмонстрацыю моладзі.

Сьвяткаваньнем 5 МЮД'у, лёзунгамі, пад якімі праводзіўся гэты дзень, пролетарская моладзь паказала, што яна канчаткова аслабаняецца з-пад ідэолегіі 2 Інтэрнацыяналу і прасоўваецца да Ленінскае бальшавіцкае ідэолёгіі. Яшчэ ў весну 19 г., калі ў Эўропе стала вядома аб заснаваньні Комуністычнага Інтэрнацыяналу, соцыялістычныя організацыі моладзі Швэцыі, Норвегіі, Італіі, Швайцарыі, комуністычныя організацыі Нямеччыны, Аўстрыі і інш. выказаліся за програму Комінтэрну, далучыліся да яе. Мала таго, яны далі шчырых пропагандыстых комуністычнага Інтэрнацыяналу ў заходняй і сярэдняй Эўропе. Яны-ж вялі ня толькі працу сярод

моладзі, а і дарослых, выконваючы працу комуністычных партый.

Вядома, што паўстала пытаньне аб скліканьні міжнароднага конгрэсу, які-б азначыў новы напрамак юнацкага руху ў зьвязку з новымі палітычнымі абставінамі, закончыўбы шлях моладзі пад комуністычныя лёзунгі.



## Бэрлінскі конгрэс.

Пасьля цэлага шэрагу перашкод, праз некалькі месяцаў пасля 5 МЮД'у ў Бэрліне 22-26 лістапада 1919 г. адбыўся конгрэс Інтэрнацыяналу моладзі. Бэрлінскі конгрэс Інтэрмолу быў адным з найвялікшых конгрэсаў, якія да яго адбываліся, па ліку прадстаўленых на ім організованых пролетараў. На конгрэсе былі прадстаўнікі 14 організацый розных краін, ад 220.000 сяброў. На ім ня было вядомых кіраўнікоў соцыялізму. Дэлегаты яго былі мала вядомы шырокім міжнародным колам моладзі, але за дэлегатамі за ўсім конгрэсам стаялі моцныя шэрагі пролетарскіх організацый, якія прашлі шлях рэволюцыйнае барацьбы. Ужо па адным гэтым, пастановы конгрэсу мелі вялізарны ўплыў на ўсясьветны юнацкі рух.



Конгрэс ухваліў організацыйны статут, які вызначыў патрэбнасьць срогае цэнтралізацыі. Міжнароднае аб'яднаньне юнацкіх пролетарскіх організацый атрымала назву „Комуні-

стычнага Інтэрнацыяналу Моладзі—КІМ". Ухваленая програма вызначыла патрэбнасьць бязумоўнага падтрыманьня комуністычных партый, неабходнасьць політычна-рэволюцыйнага выхаваньня масы пролетарскай моладзі; програма вызначыла формы дзейнасьці організацыі моладзі ў часы пераходнага пэрыоду ад капіталізму да соцыялізму.

Пастановы Бэрлінскага конгрэсу давалі юнацкаму пролетарскаму руху выразныя комуністычныя лёзунгі. Вырашэньне такога пытаньня на конгрэсе, як мілітарызм і барацьба з ім, аб гэтым добра сьведчыла. Калі ранейшыя конгрэсы Інтэрнацыяналу моладзі зьбіваліся на гэтым пытаньні ў бок соцыялзгодніцтва, на лёзунг усеагульнага разброеньня, то ён цяпер быў рашуча адкінуты. Конгрэс стаў на шлях падрыхтоўкі ўзброенага паўстаньня пролетарыяту, утварэньня чырвонай гвардыі, чырвонай арміі.

На працы конгрэсу значны ўплыў мела практыка барацьбы РЛКСМ. Пропозыцыі прадстаўнікоў Расійскага Комсамолу браліся ў аснову ўсяе працы конгрэсу.

Бэрлінскі конгрэс выбраў выканаўчы комітэт КІМ'у, у склад якога ўвашлі: Вільлі Мюнцэнбэрг і Баматэр (Швайцарыя), Л. Шацкін (Расія), Паланаў (Італія), Самуільсон (Швэцыя). Бэрлінскі конгрэс быў першым

конгрэсам Комуністычнага Інтэрнацыяналу моладзі. Ён разгарнуў новую старонку ў міжнародным пролетарскім руху моладзі. Зараз-жа пасьля конгрэсу адбыліся зьезды і конфэрэнцыі моладзі па ўсіх Эўропэйскіх краінах. Адбыўся, летам 1920 г., першы зьезд комуністычных організацый моладзі Ўсходу ў гор. Баку, на Каўказе. Усе гэтыя зьезды далучаюцца да пастановы першага конгрэсу КІМ'у, уваходзяць у склад КІМ'у.

І шосты МЮД, які праводзіўся па пастанове Бэрлінскага конгрэсу КІМ'у 5 верасьня 20 г., быў амаль што самы першы з усіх МЮД'аў па згуртованасьці моладзі і рэволюцыйнасьці высунутых ёю лёзунгаў. Яшчэ да шостага МЮД'у была праведзена вялікая падрыхтоўчая праца з боку выканаўчага комітэту КІМ'у. Па ўсіх краінах адбыўся спэцыяльны тыдзень падрыхтоўкі да міжнароднага сьвята, з 29 жніўня па 4 верасьня. Было выдадзена шмат літаратуры на 10-х мовах, спэцыяльныя портрэты Карла Лібкнэхта, юбілейны нумар часопісі „Інтэрнацыянал Моладзі", плякаты. У сьвяткаваньні МЮД'у прынялі ўдзел ня толькі Эўропэйскія краіны, а і Амэрыка, Мэксыка, Туніс, Алжыр, Канада і інш. 4 верасьня было ахвярована загінуўшай у барацьбе моладзі. Зьбіраліся грошы вязьням капіталістычных турмаў. У СССР адбыўся суботнік. Тое-ж самае робіць і Італія.

Усяго ў сьвяткаваньні МЮД‘у прыняло ўдзел больш 3 мільёнаў моладзі. У шмат якіх краінах адбыліся бойкі з паліцыяй, было нямала арыштована, зьбіта.

## Другі конгрэс КІМ‘у.

Пасля Бэрлінскага конгрэсу пачалася пара аб‘яднаньня сіл перадавой моладзі пад зразумелай і пэўнай комуністычнай програмай. Часы 1919-21 г. г. былі пэрыодам расколаў, адмежаваньня ад соцыял-дэмократаў. У гэтыя-ж часы буржуазія пасьля паласы вялікага рэволюцыйнага ўздыму і паўстаньняў трохі аправілася. Надышло рэволюцыйнае зацішша. Адышла назад непасрэдная барацьба за захоп улады. Трэба было пачаць падрыхтоўку да рашучага наступленьня праз зьбіраньне, як мага больш, шырокіх мас рабочае моладзі ў рады КІМ‘у. Трэба было больш стала вызнычаць працу комуністычных саюзаў моладзі.

Гэтымі пытаньнямі заняўся другі конгрэс КІМ‘у, які ў гэты раз, як і далей, сабраўся ў Маскве (ліпень 1921 г.). На другім конгрэсе КІМ‘у прысутнічала 150 дэлегатаў ад 48 саюзаў, з 800.000 лікам сяброў. Конгрэс унёс папраўкі ў статут КІМ‘у, вызначыўшы яшчэ большую сувязь асобных саюзаў з Выканкомам на грунце срогае цэнтралізацыі. У зьвязку са зьменаю палітычных абставін

ён вызначыў заданьні кожных комсамолаў. Галоўная-ж праца другога конгрэсу ў тым, што ён разьмежаваў працу комуністычных партый і саюзаў моладзі. Калі раней, з прычыны слабасьці компартый, комсамолы вялі выключна палітычную барацьбу, па сваёй сутнасьці партыйную, то цяпер ужо трэба было заняцца заданьнямі выключна юнацкімі. Конгрэс зьвярнуў увагу саюзаў на патрэбнасьць штодзеннай барацьбы за экономічныя патрэбы рабочай моладзі, на асьветную дзейнасьць. Конгрэс выкінуў лёзунг „бліжэй да мас рабочае моладзі“.

К 7 МЮД‘у КІМ даў лёзунг: „Зьбірайце масы пролетарскае моладзі, каб зрабіць з маладых пролетараў адважных, непабядзімых барацьбітоў. Сьвята ізноў шырока прашло па заходняй Эўропе. 4 верасьня паўсюды адбыліся зборы на карысьць галадуючых Савецкае Расіі. У часы дэмонстрацыі шмат якія краіны высоўвалі шэраг экономічных запатрабаваньняў, зьбіраючы навокал гэтых лёзунгаў моладзь, гатовую весьці барацьбу за іх выкананьне. Моладзь Савецкай краіны ўрачыста сьвяткавала 7 МЮД пад лёзунгам: „Удзел моладзі ў экономічным будаўніцтве Савецкай Расіі“. Сьвяткавала гэты дзень і моладзь усходніх краін: Манголіі, Туркестану, Хівы, Бухары, Азэрбэйджана і каўкаскіх народаў.

## Адзіны фронт рабочай моладзі.

Практычнаю школаю, у якой працаўнікі комсамолу заходняй Эўропы першы раз добра ўявілі сабе сэнс пастаноў другога конгрэсу была кампанія за „адзіны фронт“. Яна пачалася ў зьвязку з кампаніяй, якую праводзіў Комінтэрн з вясны 1922 г. Заданьнямі гэтае кампаніі было: утварыць адзіны моцны фронт усяе рабочае моладзі супроць наступаючага міжнароднага капіталу і другое—паказаць сапраўдны твар здраднікаў 2 і 2½ Інтэрнацыяналу моладзі КІМ прапанаваў гэтым згодніцкім Інтэрнацыяналам сумесна склікаць міравы конгрэс моладзі, каб абгаварыць пытаньні барацьбы супроць наступаючага капіталу. Згодніцкія Інтэрнацыяналы пасьля розных адцяжак і блытаніны, адмовіліся, і скліканьне конгрэсу зрабілі немагчымым. Аднак гэтая кампанія спрыяла сувязі КІМ‘у з масамі моладзі, нават самымі адсталымі яе коламі. Комсамольцы навучыліся выкрываць меншавіцкіх правадыроў. Адзіны фронт яны ўсё-ж такі праводзілі, утвараючы яго непасрэдна з масамі рабочае соцыял-дэмократычнае моладзі праз голавы яе правадыроў.

8 МЮД 3 верасьня 1922 году быў магутнай дэмонстрацыяй за адзіны фронт. Амаль што не паўсюды ў гэты дзень былі

тыя ці іншыя бойкі з паліцыяй. У Чэха-Славакіі саюз падлёг асабліва цяжкім рэпрэсыям. У Польшчы было арыштована шмат актыўных сяброў. 8 МЮД паказаў, што гэты дзень робіцца сапраўдным днём агляду і падліку маладых растучых сіл міжнароднае пролетарскае рэволюцыі.

## Па шляху да бальшавізацыі.

3 конгрэс КІМ'у сабраўся летам 1922 г. У момант самае ўпартае барацьбы за адзіны фронт. Гэты конгрэс дэталізаваў рэзолюцыі другога конгрэсу, рашуча выказаўся за пераход да ячэйкавае сыстэмы ў пабудаваньні комсамольскіх організацый; пастанавіў вясьці і далей барацьбу за адзіны фронт, намеціў плян перагляду програмы КІМ'у замест старой, ухваленай Бэрлінскім конгрэсам. Гэты конгрэс паставіў сабе заданьнем узмацаваць супроць-ваенную пропоганду, з прычыны новае пагрозы міравой вайны. Пад лёзунгамі прынятых конгрэсам пастаноў прашлі 9 і 10 МЮД'ы. Яны ўжо ставілі пытаньні аб перабудове комсамолу ў сапраўдныя бальшавіцкія організацыі, якія-б маглі працаваць і вясьці барацьбу паленінскі.

Наступаючы 11 МЮД у справе бальшавізацыі комсамолу павінен адыграць вялікую ролю, замацаваць ужо пройдзены міжнародным юнацкім рухам шлях да бальшавізму.

